Фотарэпартаж







# I печка, і камп'ютэр

У 1996 годзе, калі Ігар Паўлавіч Панасюк стаў выконваць абавязкі дырэктара Каленкавіцкай базавай школы, што ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці, паўстала пытанне аб рамонце школьнага будынка. Спачатку не ўсё ішло гладка, бо школе быў неабходны не касметычны, а капітальны рамонт: з 1958 года драўляны будынак трымаўся, як кажуць, на чэсным слове. З прыходам маладога і энергічнага дырэктара васьмігодка прыкметна змянілася: тут і печкі цалкам пераклалі, і камп'ютэр набылі...

Быў час, узгадвае Ігар Паўлавіч, калі паралельна з вучэбным працэсам ішлі будаўнічыя работы. Затое вось ужо каля трох год дзеці і настаўнікі з задавальненнем абжываюць прыбудовы (школа прыкметна павялічылася).

Бядой базавых сельскіх школ застаецца недахоп настаўнікаў. Не з'яўляецца выключэннем і Каленкавіцкая ўстанова: некатоорым з трынаццаці педагогаў даводзіцца выкладаць не толькі ўласны прадмет, але і сумежны. У гэтым плане, безумоўна, шчасціць гараджанам — ёсць і настаўнік музыкі, і выяўленчага мастацтва... Канешне, лепш за спецыяліста яго ўрок не правядзе ніхто, аднак (па вучэбным плане) "базавікі" не маюць магчымасці набіраць "чыстых" прадметнікаў. Вось і даводзіцца займацца самаадукацыяй, каб адукаваць належным чынам і вучняў. Нягледзячы на вялікую нагрузку каленкавіцкія настаўнікі сумленна робяць сваю справу, бо разумеюць, што хуткай дапамогі чакаць прыйдзецца доўга. Здараецца, і захварэць няма як: адсутнасць аднаго педагога можа даць збой усёй школе. Адным словам, хвароба — клопат і непрыемнасць не аднаго чалавека, а агульны.

Праблемы сельскіх школ, зразумела, нараджаюць новыя цяжкасці. Справіцца з імі — задача настаўнікаў. Разам з тым выпускнікі Каленкавіцкай базавай школы штогод радуюць выкладчыкаў сваімі поспехамі. Многія вучні працягваюць займацца апошнія два гады ў Вярховіцкай сярэдняй школе, многія медалісты якой — выхадцы якраз з Каленкавічаў. Значыць, школа сапраўды дае трывалыя веды хлопчыкам і дзяўчынкам.

Вялікую ролю ў жыцці кожнага дзіцяці адыгрывае сям'я. Але калі падлетак расце без належнай увагі бацькоў? Спазнаў, што значыць быць галодным? Таму настаўнікам часта даводзіцца пачынаць з выхавання мамы і таты, а не іх Дзімкі ці Лены... І часта — не безвынікова. Тым не менш без падтрымкі раённага аддзела адукацыі, сельсавета ці камісіі па справах непаўналетніх, бадай, абысціся цяжка.

На маё пытанне пра вольны час дзяцей Ігар Паўлавіч Панасюк пажартаваў: "Дзеці іншы раз плачуць ад празмернай занятасці. Як да гэтага ставяцца?" Мяркуйце самі: школа арандуе калгасную спартыўную залу, дзе акрамя заняткаў рэгулярна праводзяцца разнастайныя спаборніцтвы, адзначаюцца святы. Добра наладжана і работа гурткоў (настаўнікі скардзяцца, што хацелася б больш, аднак і так зрабілі ўсё магчымае), арганізуюцца спартыўныя кросы, тэматычныя вечарыны і, канешне, дыскатэкі для падлеткаў...

Існуе думка, што дрэнныя звычкі юнакі і дзяўчаты набываюць якраз пад покрывам цемры, падчас дыскатэк. Выкураная за вуглом школы цыгарэта ці распітая бутэлька гарэлкі для танцавальнага раунда часта і сапраўды аказваецца непрыкметнай для вока дзяжурных настаўнікаў. Алена Генадзьеўна Панасюк, намеснік дырэктара, запэўніла, што ў маленькім школьным калектыве, нібы ў сям'і, кантраляваць падлеткаў значна прасцей, таму процiпраўныя дзеянні з іх боку не назіраюцца. Напэўна, юнакі і дзяўчаты таксама разумеюць гэта, і залішнюю вольнасць сабе не дазваляюць.

Некалькі дзесяцігоддзяў таму дзіцячы рух у нашай краіне дзейнічаў толькі ў межах адзінай піянерскай арганізацыі. Роля непасрэдных органаў піянерскага самакіравання часта была зведзена да простага выканання рашэнняў. Пакідаючы ў гісторыі негатыўны вопыт параднай заарганізаванасці, нельга забываць і пра станоўчыя рысы амаль стогадовага дзіцячага руху, а менавіта: ідэі грамадска значных спраў, шэфскага і працоўнага клопату, зводных атрадаў і работы па месцы жыхарства, нарэшце, альтэрнатыўных праграм, арыентаваных на пэўны ўзрост.

Школьная піянерская арганізацыя для вучняў 5-8 класаў плануе сваю дзейнасць па трох напрамках: "Нашчадкі" — дапамога і падтрымка малодшых вучняў, догляд за брацкай магілай і шэфства над ветэранамі і састарэлымі ў рамках праграмы "Клопат". Школьнікі малодшых класаў, перш чым стаць піянерамі, вывучаюць побыт, гісторыю, традыцыі школы, краіны па чатырох напрамках (згодна з праграмай на кожную чвэрць).

Харчаванне школьнікаў з'яўляецца галоўным болем для многіх кіраўнікоў устаноў адукацыі. У Каленкавічах жа яно наладжана дастаткова добра. Грашовыя сродкі на харчаванне паступаюць з бюджэту (асноўная сума), з калгаса і ад бацькоў. Кожны дзень дзяжурны настаўнік занатоўвае ў спіс жадаючых падсілкавацца вучняў, робіць заказ у калгасную сталоўку і падчас вялікага перапынку (45 хвілін) дзеці арганізавана выходзяць са школы. Хлопчыкі і дзяўчынкі, якія жывуць недалёка ад установы, абедаюць дома. Шмат у чым школе дапамагаюць саманарыхтоўкі, зробленыя на калгасных палетках падчас вытворчай практыкі.

Беларускамоўная Каленкавіцкая базавая школа, здаецца, увабрала ў сябе ўсе традыцыі айчыннай адукацыі і выхавання. Яна і выглядае проста, прыгожа, годна. Школа вабіць сваімі сціплымі, інтэлігентнымі і працавітымі настаўнікамі, бо менавіта яны даюць ёй жыццё, робяць яе любай і дарагой сэрцу. І пакуль гэтыя людзі ёсць — нам за будучыню не страшна.

**Вольга ДУБОВІК.**

НА ЗДЫМКАХ: Ігар Паўлавіч Панасюк — дырэктар школы; выкладчыца беларускай мовы Лідзія Іванаўна Асапрылка вядзе ўрок у 6-м класе; настаўніца рускай мовы Ніна Мікалаеўна Міранюк, намеснік дырэктара; Саша Шчасюк са сваёй першай настаўніцай Вольгай Станіславаўнай Савіцкай; урок праводзіць Таццяна Уладзіміраўна Дзенісенка з вучнямі падрыхтоўчага класа; уважліва слухаюць сваю настаўніцу вучні 2-га класа.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**







Пункт гледжання

# Літаратура павінна выхоўваць інтэлігентнасць

***Па сваёй сутнасці праблемы, звязаныя з выкладаннем літаратуры — рускай, беларускай, замежнай, — аднолькавыя і для сярэдняй школы, і для універсітэтаў. Усе яны вынікаюць са стану цывілізацыі і яе ўзроўню развіцця.***

***Зараз імкліва расце колькасць мастацкіх твораў, з'яўляюцца і бліскучыя публіцыстычныя рэчы, і навукова-папулярныя, дзе ідзе размова пра душу, Бога і г.д. З другога боку, тыражы мастацкіх твораў невялікія, гэта ў савецкі час сярэдні тыраж быў, як правіла, не менш як 100 тысяч экзэмпляраў. Цяпер тыраж рэдка бывае больш як 20 тысяч. Студэнту часам цяжка знайсці тую кнігу, аб якой гаворыцца на лекцыі.***

У той жа час узнікае праблема адбору твораў. Яна ўпіраецца ў крытэрыі ацэнкі. Калі ў школе для пазакласнага чытання спіс аўтараў прапаноўваецца праграмай, то ва універсітэце мы выходзім за рамкі праграмы, таму што выкарыстоўваем тыя творы, якіх няма ў продажы. Напрыклад, публікацыі ў часопісе "Иностранная литература" мінулага ці пазамінулага месяца. Крытэрыі ацэнкі літаратурнага твора — паняволі суб'ектыўныя, хоць параметры, на падставе якіх адбіраецца літаратура для чытання, можна вызначыць.

Праграмы па літаратуры былі ў значнай ступені палітызаваны. Многае было недаступным савецкаму чытачу, але не было і прымітыўнай, забаўляльнай камерцыйнай літаратуры, гэткага культурнага шырспажыву, ці "масавай літаратуры", аблегчанай, спрошчанай, якая друкуецца цяпер буйным тыражом. Але мы не былі знаёмыя і з творамі О.Хакслі, Д.Оруна, К.Льюіса, Д.Толкіена, А.Кёстлера і многімі іншымі. Некаторых замежных аўтараў бязлітасна крытыкавалі, але чытач зусім не ведаў твораў, што крытыкуюцца. Так, напрыклад, атрымалася са славутым Джэймсам Бондам, героем рамана Я.Флемінга, з раманам "Пэйтан-Плэйс" амерыканскай пісьменніцы Грэйс Мэтэліос, з творамі мадэрнісцкага характару. Калі надрукавалі ў нас раманы Флемінга, высветлілася не толькі старая ісціна, што "чорт не такі страшны, як яго малююць", але і ўзнікла пытанне, а чаму гэтыя самыя ідэолагі не натхнялі савецкіх пісьменнікаў на стварэнне "савецкага Джэймса Бонда". Бо ў энергічным, смелым, знаходлівым, прыгожым супершпіёне ўтрымлівалася магутная выхаваўчая энергія. Так, зразумела, у раманах Я.Флемінга няма мастацкіх вышынь, яны рашалі іншыя задачы. Па жанры гэтыя раманы з'яўляюцца па сутнасці пераліцаванымі рыцарскімі раманамі. Герой выратоўвае прыгожых дзяўчат, знішчае розных маньякаў, а нярэдка ратуе і ўсё чалавецтва.

Як падаваць цяпер літаратурны твор у школе і універсітэце — гэтае пытанне не можа быць вырашана адразу і назаўсёды. Набор метадычных прыёмаў павінен быць вялікім, але ў любым выпадку адыгрывае асобную ролю асоба выкладчыка. А выкладчык — у ідэале — павінен выконваць ролю святара, свецкага святара. Сур'ёзныя літаратурныя творы пісьменнікаў практычна ўсіх краін асвятляюць маральныя праблемы і не вельмі станоўча адносяцца да рацыянальнасці і разліку. І такія аўтары, як Д.Сэлінджэр, Д.Чывер, К.Льюіс, К.Кіці, Д.Стэйнбек шырока асвятляюць тэму маральнасці. Мараль не заўсёды патрабуе рацыянальнай матывацыі. Спагада, жаданне прыйсці на дапамогу, спачуванне пакрыўджаным — не маюць патрэбы ў матывацыі. І літаратура ў сваіх лепшых творах заўсёды спачувае людзям, пакрыўджаным лёсам.

Традыцыйнае літаратуразнаўства сцвярджае, што жыццё — само па сабе, літаратура — сама па сабе. Змешваць літаратуру і жыццё, на думку некаторых літаратуразнаўцаў, некарэктна, гэта грэх публіцыстычны, сацыялагічны, натуралістычны. Мадэрнізм імкнуўся ад сацыяльнага жыцця ўнутр чалавека. Аднак адыход ад свету з яго складанасцямі, праблемай выбару, неабходнасцю ўчынку — гэта і ёсць свайго роду жыццё.

Пры аналізе літаратурнага твора школьніка і студэнта можна ставіць на месца героя і заклікаць яго мадэліраваць свае паводзіны ў аналагічнай сітуацыі. Узяць, напрыклад, сітуацыю ў рамане С.Лема "Салярыс". Сутнасць сітуацыі — што схавана ў душы чалавека, якія ў ёй тунэлі, тупікі, як ён павядзе сябе ў экстрэмальнай сітуацыі? Важна ведаць сябе, ведаць свет і выбіраць тую стратэгію паводзін, якая была б высакароднай, узвышанай, далёкай ад глупства і жыццёвых драбніц.

Сучасныя тэндэнцыі развіцця літаратуры можна вызначыць словамі: "Які час — такія і песні". Нешта бярэцца з мінулага — гэта жанр гістарычнага рамана. Заглядваюць пісьменнікі і ў будучыню — гэта прэрагатыва навуковай фантастыкі. Сёння ствараюцца фантастычныя па духу творы, у якіх мадэліруюцца новыя міфалогіі, канструіруюцца цэлыя рэлігіі. Гэта творы Толкіена, К.Льюіса, Н.Перумава, У.ле Гуін. У гэтых чароўна-казачных апаведах Зло сутыкаецца з Дабром у чыстым выглядзе, як гэта і адбываецца ў міфалогіі. Культуралагічны аспект чароўна-казачнай фантастыкі яшчэ трэба аналізаваць, але традыцыйнае літаратуразнаўства тут відавочна бездапаможнае. Літаратура павінна выхоўваць мужнасць, сумленнасць, інтэлігентнасць. У антычнасці юнакоў прымушалі вывучаць Гамера. Можа, таму антычная культура пакінула нам столькі цудоўных вобразаў рэальных людзей.

А калі з твора ў твор пісьменнік "забівае" сваіх персанажаў, яны самі сябе забіваюць, прычым у стане духоўнага распаду, жаху перад жыццём і сітуацыяй, поўнай няздольнасцю на ўчынак? І робіцца гэта па-мастацку моцна, псіхалагічна пераканаўча! Але ці можна будаваць выхаванне маладога пакалення на пахавальным маршы?

У.Фолкнер сказаў у сваёй Нобелеўскай прамове: "Я адхіляю думку аб гібелі чалавека. Лёгка гаварыць аб тым, што Чалавек бессмяротны проста таму, што ён усё вытрымае. Я веру, што чалавек не проста выстаіць, ён пераможа. Абавязак пісьменніка, паэта — пісаць аб гэтым, дапамагчы чалавеку выстаяць, умацоўваючы чалавечыя сэрцы, напамінаючы аб мужнасці, сумленні, падзеі, гонары, спагадзе — аб тым, што складае вечную славу чалавецтва".

**Станіслаў САЛАДОЎНІКАЎ,**
**дацэнт кафедры сусветнай літаратуры Беларускага універсітэта культуры,**
**Дзіна САЛАДОЎНІКАВА,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі.**

Валеалагічная адукацыя

# Усё — для шчасця дзяцей

**НЯДАЎНА на базе Навасвержанскай сярэдняй школы адбылося выязное пасяджэнне савета аддзела адукацыі Стаўбцоўскага райвыканкама. На парадак дня вынесена пытанне "Актуальнасць і сучаснасць валеалагічнай адукацыі ў рэжыме работы агульнаадукацыйнай рэфармуемай школы".**

Візітная картка Стаўбцоўскага раёна па пытаннях аховы і ўмацавання здароўя дзяцей і падлеткаў мае адметны змест і даволі стройную сістэму. На працягу пяці год раён актыўна працуе над праблемай "Ахова і ўмацаванне фізічнага і псіхічнага здароўя дзяцей на аснове навуковых пoглядаў і практычных напрацовак". Усе намаганні навучальных устаноў накіраваны на ўдасканаленне работы па ўмацаванні здароўя і развіцця асобы дзіцяці.

Шмат увагі надаецца гігіене, загартаванню, прафілактыцы шкодных звычак, здароваму ладу жыцця, арганізацыі рацыянальнага харчавання, працы і адпачынку, рэжыму дня, прафілактыцы захворванняў, выкарыстанню ведаў на практыцы.

У гэтым навучальным годзе ў школах раёна пачалі ствараццa валеалагічныя службы, якія працуюць па наступных напрамках: сварэннне банка даных і пашпартызацыя здароўя школьнікаў, маніторынг фізічнага развіцця, арганізацыя лекцый, семінараў і кансультацый урачоў, групавых і індывідуальных медыцынскіх абследаванняў, фарміраванне здаровага ладу жыцця. Актыўная работа вядзецца па стварэнні валеалагічных актываў, задача якіх заключаецца ў кантролі за правядзеннем фізкультхвілінак і гімнастыкі для дзяцей. У практыку работы школ па праграме "Валеалогія" актыўна ўкараняюцца Дні здароўя, спартыўныя святы, экскурсіі, турыстычныя паходы, медыцынскія агляды, псіхалагічныя гульні і трэнінгі.

У рамках праграмы "Здароўе" праходзяць акцыі "За здаровы лад жыцця", мэта якіх — прафілактыка курэння, наркаманіі, алкагалізму. У іх праграму ўключаны тэматычныя гутаркі, лекцыі, дыспуты, відэаўрокі, дзелавыя гульні, сустрэчы з работнікамі бальніцы ў міліцыі. У школах раёна практыкуецца правядзенне спецкурсаў "Здаровы лад жыцця", "Валеалогія". Апошні дапамагае займацца прафілактыкай захворванняў. На працягу года ў Навасвержанскай сярэдняй школе № 1, Заямнаўскай, Шашкоўскай, Засульскай школах дзейнічае семінар "Валеалагічнае суправаджэнне вучэбна-выхаваўчага працэсу".

Але працэс валеалагічнага выхавання і навучання будзе дзейсным толькі ў тым выпадку, калі закране мысліцельную і эмацыянальную сферу псіхікі чалавека, калі будзе ўспрымацца як асабістая перакананасць у неабходнасці змянення адносін да свайго здароўя. Школа павінна закладваць асновы валеалагічных ведаў у індывідуальных гутарках, класных гадзінах, лекцыях, семінарах, асобныя пытанні можна ўздымаць на ўроках біялогіі, хіміі, фізікі, фізкультуры, спецыяльнай медыцынскай падрыхтоўкі.

Раён мае цікавыя напрацоўкі па арганізацыі аздараўлення школьнікаў у летні перыяд, выпрацаваны новыя падыходы да арганізацыі збалансаванага харчавання школьнікаў з улікам узроставых груп. Ёсць упэўненасць, што створана сістэма па пераемнасці ў рабоце школ і дашкольных устаноў. У 6 школах раёна — Навасвержанскай, Засульскай, сярэдняй школе № 1, сярэдняй школе № 2, Шашкоўскай сярэдняй школе, Старасвержанскай — адкрыты класы з лячэбна-аздараўленчым ухілам, якія працуюць па праграме "Здаровы лад жыцця". Для гэтых класаў закуплены сіроп шыпоўніка, рэвіт, глюкоза, аскарбінавая кіслата. На працягу года для выхаванцаў вучэбна-трэніровачных груп клуба фізічнай падрыхтоўкі арганізуецца С-вітамінізацыя. У летні перыяд згодна даведзенага плана сабраны лекавыя травы і здадзены ў аптэкі. Многія школы атрымалі ўзамен вітаміны і зборы лекавых траў, якія па рэкамендацыі ўрачоў выкарыстоўваюцца для вітамінізацыі школьнікаў. У гэтым навучальным годзе ўстановы адукацыі працавалі над рэалізацыяй зместу фізкультурна-аздараўленчага комплексу "Алімпійскія надзеі", шырока выкарыстоўвалі ў працэсе фізічнага выхавання беларускія народныя гульні.

Асаблівае ўражанне пакідае наведанне Навасвержанскай школы. Тут ствараюцца аптымальныя ўмовы. Да паслуг дзяцей — лячэбна-аздараўленчы клас, фітабар, залы рытмікі, харэаграфіі, сталовая, спартыўная залы, душавыя, спартыўныя і гульнёвыя пляцоўкі, кабінет сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі. У школе выкарыстоўваюцца самыя розныя формы і метады выхавання, накіраваныя на актывізацыю рухальнай дзейнасці дзяцей. Педагагічны калектыў працуе пад дэвізам "Усё — для шчасця дзяцей", вывучае новыя тэхналогіі для стварэння камфорту кожнаму дзіцяці, прапагандуе аздараўленча-фізкультурную работу сярод бацькоў.

Удзельнікі пасяджэння савета азнаёміліся з сістэмай работы па праграме валеалогіі, аб якой расказала кіраўніцтва школы. Яны пабывалі ў фітабары на занятках рытмікі, змаглі азнаёміцца са станам фізкультурна-аздараўленчай і спартыўнай работы, наведаўшы шоу-праграму "Спорт-Сяброўства-Мір". Вопыт работы Навасвержанскай школы па пераходзе на валеалагічны рэжым адукацыі з'явіцца важным аспектам у вучэбна-выхаваўчым працэсе. Інавацыйныя формы і метады працы, якія практыкуюцца ў Навасвержанскай школе, садзейнічаюць асваенню новых падыходаў. Для кіраўнікоў школ гэта, хутчэй за ўсё, перспектыва да далейшай працы і разваг, якая адкрывае шырокую прастору для вырашэння многіх праблем.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст абласнога ІПК,**
**Уладзімір ТАЙНІКАЎ,**
**дырэктар абласнога Цэнтра па фізкультуры і спорту.**

